# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 5 (76) Травень 2013 г.


## Па 30 базавых велічыняў – за “парушэньне закону аб СМІ”

Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску **Алена Протас**, упершыню судзячы дэмакратычных актывістаў, прысудзіла 17 траўня сябрам партыі БНФ **Леаніду Аўтухову** і **Кастусю Смолікаву** па 30 базавых велічыняў (па 3 мільёны) штрафу на кожнага. Аднак найбольш прысутных на працэсе актывістаў, журналістаў і праваабаронцаў уразіў не памер штрафаў, а тое, што судзьдзя практычна пазбавіла старшыню абласной суполкі партыі БНФ Леаніда Аўтухова магчымасьці ўдзельнічаць у судовым працэсе.


Кастусь Смолікаў, Леанід Аўтухоў

**Алена Протас каля сямі разоў адхіляла хадайніцтвы Аўтухова, каб запрасіць перакладчыка, бо ён недасканала валодае расейскай мовай. Судзьдзя адмовіла ў гэтым, заявіўшы, што Леанід Аўтухоў вучыўся ў школе і там вывучаў расейскую мову. У такім выпадку, на яе думку, перакладчык не патрэбны.**

На пытаньне, ці вучыла яна ў школе беларускую, і чаму ня можа фармуляваць свае пытаньні на гэтай дзяржаўнай мове, Алена Протас не адказала. Спадар Аўтухоў быў вымушаны заявіць хадайніцтва аб адводзе судзьдзі, але яно таксама было адхілена. Калі ж ён зьвярнуўся са скаргай на неправамоцныя дзеяньні судзьдзі Протас да старшыні суду, то ў адказ пачуў, што ягоную скаргу разгледзяць і дадуць адказ цягам месяцу.

Без перакладчыка Аўтухоў ня мог быць пэўным, што ўсё разумее падчас працэсу, і таму шмат разоў перапытваў альбо не адказваў на дзеякія пытаньні судзьдзі. Алена Протас загадала, каб сакратарка запісала ў пратакол, што Аўтухоў адмаўляецца даваць тлумачэньні. Але ён не пагадзіўся, і папрасіў занатаваць адваротнае: што гатовы адказваць на пытаньні суду, калі будзе мець магчымасьць іх зразумець. На якой мове запісваюцца словы Аўтухова і ягонага аднапартыйца Смолікава, які таксама гаварыў па-беларуску, даведацца так і не ўдалося. Таму актывісты ня пэўныя, што іх паказаньні не былі скажоныя праз непрафэсійны пераклад.

Не дапамагло нават апэляваньне да канстытуцыі: Леанід Аўтухоў даводзіў, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай мовай, і ніхто ня мае права дыскрымінаваць чалавека па нацыянальнай прыкмеце. Але судзьдзя стаяла на сваім. І вынесла абвінаваўчую пастанову: прызнала Леаніда Аўтухова і Кастуся Смолікава вінаватымі ў парушэньні заканадаўства аб СМІ.

Нагадаем, 22 сакавіка, перад Днём Волі, актывісты раздавалі ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» партыйны бюлетэнь «Магістрат». Іх затрымалі, абвінавацілі ў закліках да арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу і пасадзілі на 5 сутак. Праз месяц супраць іх было выстаўлена яшчэ адно абвінавачаньне: колькасьць канфіскаваных асобнікаў бюлетэня перавышае заяўлены наклад. Прычым бюлетэні супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасьці затрыманых не пералічвалі.

**Падчас судовага працэсу міліцыянты сьведчылі, ужываючы такую адзінку вымярэньня, як «вялікі стос» ці «тоўсты пачак». Судзьдзю Алену Протас такая аргумэнтацыя цалкам задавальняла. Яна толькі ўдакладняла, ці выглядала гэта большым за дазволеныя заканадаўствам 299 асобнікаў. І міліцыянты згаджаліся.**

## Адбыўся суд над удзельнікамі “чарнобыльскага” пікету ў Віцебску



Віталь Каваленка, Ян Дзяржаўцаў

Па 20 базавых велічыняў штрафу прысудзілі віцебскім актывістам **Яну Дзяржаўцаву** і **Віталю Каваленку**. Іх абвінавацілі ў правядзеньні несанкцыянаванага пікету. 26 красавіка яны проста стаялі з плякатамі *«Будаваць АЭС бяз згоды народу можа толькі вораг Беларусі»* і *«Дыктатар, пабудуеш Астравец — пажнеш Чарнобыль»*. Актывістаў судзіла **Іна Грабоўская**, вядомая ў Віцебску сваімі шматлікімі абвінаваўчымі пастановамі ў дачыненьні да апазыцыянэраў. Ян Дзяржаўцаў і Віталь Каваленка зьбіраюцца абскардзіць судовае рашэньне ў вышэйшых інстанцыях.

У судзе актывісты сваёй віны не прызналі, кажа Ян Дзяржаўцаў: *“Спасылаліся на міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах. Казалі, што Беларусь падпісала гэты пакт, што ён вышэй за законы Беларусі. Улады законы гэтыя не выконваюць. Казалі, што ўлады не даюць нам дазволу на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, пачынаючы з 2009 году”.*

# Дырэктары школ і каледжаў Віцебску баяцца БНФ?

**Абласны старшыня партыі БНФ Леанід Аўтухоў зьвярнуўся да кіраўнікоў навучальных установаў Віцебску з заявамі, у якіх прасіў даць магчымасьць інфармацыйна-прапагандысцкай групе партыі правесьці сустрэчы з работнікамі ўстановаў. Вынік чаканы: на ніводную з 54-х заяў не было атрымана станоўчага адказу. Але нечаканасьцю стала іншая акалічнасьць: высьветлілася, што працаўнікі на ніве асьветы дрэнна ведаюць законы.**

Леанід Аўтухоў паведаміў, што амаль палова дырэктараў школ, гімназіяў і каледжаў ды рэктараў ВНУ тым ці іншым чынам парушылі закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб». Так, у адказах, атрыманых з 15-ці вучэбных установаў, адсутнічае інфармацыя аб парадку іх абскарджаньня. Двое кіраўнікоў — дырэктар сярэдняй школы № 25 і рэктар мэдычнага ўнівэрсытэту — прадэманстравалі зьняважлівае стаўленьне да беларускай мовы: на заявы, напісаныя па-беларуску, яны адказалі не на мове звароту, як таго патрабуе згаданы закон, а па-расейску. І, нарэшце, 9 дырэктараў наогул праігнаравалі заяву старшыні БНФ — у вызначаныя законам тэрміны ад іх не было атрымана ніякіх адказаў.

Факты ўхіленьня ад разгляду заяваў і нядача на іх адказаў асабліва абурылі Леаніда Аўтухова. Ён зьвярнуўся ў адміністрацыі раёнаў, на тэрыторыі якіх разьмешчаныя адпаведныя навучальныя ўстановы, з просьбай распачаць працэсуальныя дзеяньні, прадугледжаныя Працэсуальна-выканаўчым кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэньнях, і ў выпадках, калі правапарушэньні будуць выяўленыя, прыцягнуць вінаватых службовых асоб да адказнасьці. Аналягічныя просьбы былі накіраваныя і ў раённыя пракуратуры.

**Аднак ані ўлады, ані супрацоўнікі пракуратур ніякіх парушэньняў у дзеяньнях нядбайных дырэктараў школаў і каледжаў збольшага ня ўбачылі. Маўляў, вінаватыя не яны, а дрэнна спрацавала пошта: у адных выпадках заказных лістоў на іх адрас навучальныя ўстановы зусім не атрымлівалі, у іншых — лісты атрымалі і адказалі на іх, аднак чамусьці адказы недзе згубіліся на шляху да адрасата.**

Зрэшты, у адміністрацыі аднаго з раёнаў Віцебску (Чыгуначнага) прызналі, што парушэньні з боку дырэктараў сярэдніх школаў № 9 і № 27 і гімназіяў № 2 і № 4 усё-такі мелі месца. І нават паведамілі, што гэтыя службовыя асобы «прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці». Пры тым — ані слова пра прыцягненьне да адказнасьці ў адпаведнасьці з адміністрацыйным кодэксам.

Не сьпяшаецца і пракуратура Чыгуначнага раёну: пракурор паведаміў Аўтухову, што яго заява накіраваная на разгляд у аддзел адукацыі раённай адміністрацыі, і пасьля гэтага — цішыня. Дык што дырэктары школ — правапарушальнікі могуць спаць спакойна: ім, хутчэй за ўсё, не пагражаюць штрафы ў памеры ад 400 тысяч да 2 мільёнаў, прадугледжаныя кодэксам за невыкананьне закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», бо неўзабаве мінае двухмесячны тэрмін з моманту зьдзяйсьненьня правапарушэньняў, цягам якога могуць быць накладзеныя адміністрацыйныя спагнаньні; па заканчэньні гэтага тэрміну справы ў адносінах да іх мусяць быць спыненыя...

# ПАРЛЯМЭНТАРЫ ПАДЗЯКАВАЛІ ВІЦЕБСКАМУ ПРАВААБАРОНЦУ

Старшыня пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраваньні і рэглямэнце Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Аляксандар Зазуля** ад імя дэпутатаў — сябраў камісіі падзякаваў **Леаніду Сьвеціку** за праяўленую ім ініцыятыву і актыўную жыцьцёвую пазыцыю. У цяперашні час ідзе падрыхтоўка законапраекту «Аб унясеньні зьменаў у Выбарчы Кодэкс Рэспублікі Беларусь», і праваабаронца накіроўваў у парлямэнт прапанову аб тым, якія зьмены, на яго думку, варта зрабіць.

У прыватнасьці, Леанід Сьвецік прасіў унесьці ў Выбарчы кодэкс азначэньне дзяржаўна-прававога статусу выбарчых камісіяў. У дзеючай цяпер рэдакцыі кодэксу такога азначэньня няма. Праваабаронца сьцьвярджае, што з-за гэтага парушаюцца правы і законныя інтарэсы грамадзян. Напрыклад, калі кіраўнік выбарчай камісіі не выконвае закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, яго нельга прыцягнуць да адказнасьці, бо суды не прызнаюць за камісіямі нейкага юрыдычнага статусу: яны, маўляў, не зьяўляюцца арганізацыямі, а таму дзеяньне названага закону на іх не распаўсюджваецца.



Леанід Сьвецік

**«Дэпутаты – сябры пастаяннай камісіі, зьяўляючыся пасьлядоўнымі прыхільнікамі забесьпячэньня адкрытасьці і публічнасьці выбарчых дзеяньняў і працэдур, падзяляюць Ваша імкненьне да ўдасканаленьня выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь... Узьнятая ў вашым звароце праблема будзе ўзятая пад увагу дэпутатамі – сябрамі пастаяннай камісіі пры ўнясеньні ў Палату прадстаўнікоў законапраекту, які прадугледжвае карэктаваньне Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь»**, — паабяцаў старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў віцебскаму праваабаронцу.

Нагадаем, раней Леанід Сьвецік зьвяртаўся з аналягічнай прапановай у Цэнтральную выбарчую камісію, якая разам з Саўмінам і Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь адказвае за падрыхтоўку законапраекту аб унясеньні зьменаў у выбарчы кодэкс. Аднак, у адрозьненьне ад парлямэнту, там прапанову, фактычна, праігнаравалі: старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына** паведаміла праваабаронцу, што ягоны зварот пакінуты без разгляду па сутнасьці.

# Суд не задаволіў пазоў Антаніны Піванос

17 траўня ў судзе Чыгуначнага раёну Віцебску завяршылася разьбіральніцтва па справе з цалкам прадказальным вынікам. Мяркуйце самі: звычайная пэнсіянэрка падала пазоў на кампэнсацыю калісьці канфіскаванай у яе вышыўкі. Але гэтая простая справа звычайнай віцебскай пэнсіянэркі можа мець для Беларусі ня толькі палітычны, але і велізарны эканамічны эфэкт. Бо за сьпінай у пэнсіянэркі стаіць ня толькі праўда, але і Камітэт па правах чалавека ААН.

Гэтая гісторыя распачалася яшчэ ў 2008 годзе на Дзень Волі. Успамінае **Антаніна Піванос**:

*- Ідэя вышыць малітву ў мяне нарадзілася даўным-даўно - нават ня 5 гадоў таму. У той дзень (25-га сакавіка 2008 г.) сабралася шмат журналістаў. Калі я дарыла вышыўку* ***Барысу Хамайду*** *- дык усе сталі прасіць - «Пакажы хоць, што там». Вось я яе і разгарнула. Потым аддала Барысу - мы паглядзелі, дзе яна будзе вісець, павесілі яе. Ну, я і пайшла дадому. Я нават адышла мэтраў на 50 - і тут да мяне падыходзіць міліцыянт і кажа: «Вы арыштаваныя». Я кажу: «А за што?». Ён мне і адказвае: «Прыедзем у аддзел міліцыі, вы ведаеце - за што». Мы і паехалі ў РАУС ва «ўазіку».*


Антаніна Піванос

*Потым пратакол склалі, дагляд зладзілі...*

*Ну а потым - на ўазік і ў суд павезьлі. Ужо ў судзе, як я ні даказвала, што ў мяне нічога не было, і мяне затрымалі нават ня ў момант дарэньня - усё было бескарысна. Сказалі, што я трымала ў руках габэлен з малітвай і таму вінаватая. Малітву тады канфіскавалі ў даход дзяржавы, а мне далі 2 базавыя велічыні штрафу. Што гэта за краіна такая, дзе за малітву да 70-гадовых мірным пэнсіянэраў ставяцца горш, чымся да самых апошніх хуліганаў?*

*Пасьля разам з праваабаронцам* ***Леанідам Сьвецікам*** *мы падавалі апэляцыю ў віцебскі абласны і, потым, Вярхоўны суды. Вынік усюды адзін і той жа - падстаў для зьмены прысуду няма. Вычарпаўшы ўсе магчымасьці тут, мы падалі скаргу ў ААН. І вось на пачатку гэтага году прыйшоў афіцыйны адказ на расейскай мове аб задавальненьні маёй скаргі. Мы пасьля гэтага і падалі пазоў у суд Чыгуначнага раёну Віцебску. Але, здаецца, нашай дзяржаве і гэта ня ўказ...*

Варта адзначыць, што пэнсіянэрка падала пазоў на Міністэрства фінансаў Беларусі і патрабавала кампэнсаваць ёй 7 мільёнаў рублёў: свой гафт яна ацаніла ў 5 мільёнаў (ручная праца, памер - 0,9?0,64 мэтраў, тэрмін выкананьня - паўгода); 2 мільёны ў якасьці маральнай шкоды і плюс да гэтага судовыя выдаткі.

Прадстаўнік адказчыка (Міністэрства фінансаў) пазоў не прызнаў, паколькі адміністрацыйная справа не была адмененая, а, згодна зь беларускім заканадаўствам, толькі ў гэтым выпадку робіцца кампэнсацыя. Апроч таго, Міністэрства замежных спраў патлумачыла, што рашэньне Камітэту па правах чалавека носіць «рэкамэндацыйны» характар...

Найбольш красамоўна сутнасьць справы выказаў у спрэчках адвакат Антаніны Піванос **Міхаіл Замалін**. Ён заявіў літаральна наступнае:

*- Прэзыдэнт РБ пацьвердзіў сваё забавязаньне перад КПЧ ААН і пацьвердзіў сваю згоду падпарадкоўвацца. Але тут ёсьць супярэчнасьць паміж тым, што напісала намесьніца міністра замежных спраў і КПЧ. Апошні кажа, што дзяржава абавязаная падпарадкавацца. Сёньня мы павінны вырашыць - што ж важней нашай краіне: сьцьверджаньне нашага чыноўніка, або забавязаньні нашай дзяржавы. Забавязаньні павінны быць сьвятыя, непарушныя і не перакручаныя ніякімі чыноўнікамі. Бо калі адбудзецца іншае, дык выходзіць, што дзяржава адмаўляецца ад усіх сваіх абавязальніцтваў.*

*Калі мы адступіліся ад аднаго, мы можам не зважаць і на ўсё астатняе. Складзецца сытуацыя, як калі Гітлер уварваўся ў рымскую дэмілітарызаваную зону, наўпрост праглынуўшы ўсе свае ранейшыя забавязаньні. Мы, дэмакратычная краіна, якая знаходзіцца ў цэнтры Эўропы, не павінны пераймаць гнюса, заклеймаванага гісторыяй.*

*Наконт пазыцыі адказчыка: яна зводзіцца да таго, што пастанова, якая ўступілі ў законную сілу, не скасаваная і ня абскарджаная. Так, але трэба ўлічваць, што ўсё гэта - нашы ўнутраныя законы. А 8-ы артыкул Канстытуцыі кажа пра тое, што мясцовае заканадаўства працуе тады, калі яно адпавядае цалкам і ні ў чым не супярэчыць міжнародным нормам, якія мы ўхвалілі, падпісалі і прызналі.*

На жаль, суд прыняў рашэньне не на карысьць аўтарытэту Рэспублікі Беларусь: судзьдзя **Валянціна Кавалёва** адмовіла ў задавальненьні пазову Антаніны Піванос, матывуючы сваё рашэньне «неабгрунтаванасьцю».

Сытуацыю камэнтуе віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік:

*- Гэта першая гэткая справа ў Беларусі за ўсю гісторыю нашай краіны з моманту фактычнай ратыфікацыі Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Мабыць, папросту першасны суд не захацеў браць на сябе адказнасьць. Але ж пацерпіць аўтарытэт краіны. Бо ўсе міжнародныя агенцтва скажуць пра тое, што мы адмаўляемся выконваць рашэньне КПЧ. Выходзіць, што дакумэнты падпісалі, забавязаньні ўзялі: а хочам - выконваем іх, ня хочам - не выконваем. Прывяду такі прыклад. Скажам, калі мы ўступаем у СГА, судовая сыстэма павінна быць бесьпярэчнай ў дачыненьні да міжнароднага права. Бо калі суды ня будуць прыслухоўвацца да незалежных кампэтэнтных ворганаў, дык, напрыклад, тыя ж інвэстары і сур'ёзныя партнэры наўрад ці захочуць сюды ісьці. Выходзіць, што гэты працэс мае ня толькі палітычны, але і эканамічны эфэкт, што для Беларусі вельмі важна.*

Найбліжэйшым часам Антаніна Піванос мяркуе напісаць адпаведны зварот у Генэральную пракуратуру і Вярхоўны Суд. Час пакажа: наколькі гэтыя органы заклапочаныя аўтарытэтам дзяржавы перад міжнароднай супольнасьцю.

# Санстанцыя пераконвае палітыка ў тым, што ў Віцебскім ІЧУ сядзельцы знаходзяцца ў добрых умовах

**Правёўшы пяць сутак у Віцебскім ізалятары часовага ўтрыманьня (ІЧУ) за раздачу ўлётак з запрашэньнем на акцыю 25 сакавіка, абласны кіраўнік партыі БНФ Леанід Аўтухоў вымушаны быў зьвярнуцца да лекараў. Паводле палітыка, у ІЧУ ён быў дастаўлены зусім здаровым, а як выйшаў стуль, лекары паставілі яму дыягназ «інфэкцыйная ангіна». На думку Леаніда Аўтухова, інфэкцыю ён, найхутчэй, падчапіў у ІЧУ, таму папрасіў санстанцыю праверыць на адпаведнасьць санітарным нормам умовы ўтрыманьня грамадзян у ізалятары.**

«Мяркую, што я заразіўся інфэкцыйным захворваньнем, знаходзячыся пад вартай у ІЧУ, з-за халатнасьці яго работнікаў і неналежнай арганізацыі кіраўніцтвам установы падтрыманьня санітарна-эпідэміялягічных нормаў у Віцебскім ІЧУ. Улічваючы, што ў ІЧУ штодня зьмяшчаецца значная колькасьць грамадзян, гэтая ўстанова можа стаць крыніцай масавага заражэньня людзей», — гэтак патлумачыў Леанід Аўтухоў прычыну свайго звароту ў абласны цэнтар гігіены, эпідэміялёгіі і грамадзкага здароўя.

І вось палітык атрымаў адказ на свой зварот. Намесьнік галоўурача Віцебскага абласнога цэнтру гігіены Аляксей Адзееў паведаміў, што быў праведзены агляд санітарна-гігіенічнага стану ІЧУ. Якіх-кольвек парушэньняў ня выяўлена: камэры абсталяваныя ўсім неабходным, тэмпэратура ў іх на момант абсьледаваньня складала +20 — +22оС.

«Усе асобы, дастаўленыя ў ізалятар, перад разьмяшчэньнем іх па камэрах, апытваюцца мэдычным працаўніком або дзяжурным пра стан здароўя і аглядаюцца на каросту, пэдыкулёз, інфэкцыйныя захворваньні... Скаргаў на стан здароўя Вашы сукамэрнікі не прад'яўлялі, хуткая дапамога да іх не выклікалася... Згодна з дадзенымі журналаў "Першаснага агляду і рэгістрацыі аказаньня мэдычнай дапамогі асобам, дастаўленым у ІЧУ", "Уліку выклікаў хуткай мэдычнай дапамогі", "Уліку інфэкцыйных захворваньняў" за мінулы пэрыяд 2013 году выпадкаў інфэкцыйных захворваньняў не зарэгістравана», — паведаміў намесьнік галоўурача Аўтухову.

**Такім чынам, выходзіць, што віцебскі кіраўнік партыі БНФ, патрапіўшы ў ІЧУ, апынуўся ледзь не ў санаторыі. Аднак застаецца пытаньне: калі ўсё гэтак добра, дык што ж тады стала прычынай інфэкцыйнай хваробы пасьля пяці дзён, праведзеных у ізалятары?**

# КПЧ ААН: Улады Беларусі парушылі правы наваполацкіх актывістаў

**Камітэт па правох чалавека ААН прыняў яшчэ адно рашэньне, у якім прызнаў Рэспубліку Беларусь парушальніцай грамадзянскіх і палітычных правоў жыхароў краіны. Згодна з чарговым рашэньнем камітэту, у 2007 годзе наваполацкі суд несправядліва пакараў мясцовых актывістаў Валера Шаўчэнку (35 базавых велічынь) і Антона Ясіновіча (25 базавых велічынь) за нібыта парушэньне Выбарчага кодэксу.**

**Валер Шаўчэнка** і **Антон Ясіновіч** зьвярнуліся ў камітэт пасьля таго, як былі пакараныя судом паводле артыкулу 9.10 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне заканадаўства аб выбарах, рэфэрэндуме, аб адкліканьні дэпутата і аб рэалізацыі права заканадаўчай ініцыятывы грамадзян).

У 2007 годзе яны ладзілі шэраг пікетаў, дазволеных уладамі, выказваючы пратэст супраць адмены льготаў і інфармуючы грамадзян аб наступствах прыняцьця адпаведнага закону. Падчас акцыі пікетоўцы прасілі жыхароў гораду даць ацэнку дзеяньням дэпутатаў парлямэнту ад Наваполацку, што прагаласавалі за закон. Жыхары ахвотна падпісваліся пад зваротам: «Мы пратэстуем супраць адмены льготаў і выступаем за адкліканьне дэпутатаў парлямэнту ад Наваполацку, якія прагаласавалі за антынародны закон». Было сабрана 3 тысячы подпісаў, якія актывісты накіравалі ў адміністрацыю прэзыдэнта і ў мясцовыя органы ўлады.

Улады ніяк не адрэагавалі на калектыўны зварот грамадзян. Затое на актывістаў, якія зьбіралі подпісы, завялі адміністрацыйную справу: яны нібыта ня выканалі працэдуры, неабходныя для адкліканьня дэпутатаў. Наваполацкі гарадзкі суд прызнаў іх вінаватымі, Віцебскі абласны і Вярхоўны суд, у якія накіроўваліся скаргі на рашэньне суду першай інстанцыі, пакінулі гэтае рашэньне ў сіле.

**Цяпер кропкі над «і» расставіў Камітэт па правох чалавека. На думку экспэртаў камітэту, беларускія суды пакаралі Шаўчэнку і Ясіновіча ў парушэньне часткі 2 артыкулу 19 міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох («Кожны чалавек мае права на свабоду выказваньня; гэтае права ўключае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага кшталту інфармацыю ды ідэі, не зважаючы на дзяржаўныя межы, як вусна, гэтак і на пісьме ці ў друку...»).**

Беларусь, якая ратыфікавала пакт, узяла на на сябе забавязаньне выконваць палажэньні гэтага міжнароднага прававога дакумэнту. Таму цяпер улады павінны выплаціць актывістам кампэнсацыю панесеных імі страт. Хаця ці зробяць яны гэта — застаецца пад пытаньнем: апошнім часам беларускія ўлады, нягледзячы на міжнародныя забавязаньні краіны, ігнаруюць усе рашэньні КПЧ.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.